Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# Чырвоны сейбіт

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 9 (29) — ВЕРАСЕНЬ 1928 г. — № 9 (29)



Адпраўка сельска-гаспадарчых машын з віцебскіх заводаў Мэтпрому

## У цягніку

Р. Сьмелы

Гудзе зямля, ляскочуць колы,
Дрыжыць накураны вагон,
Бягуць—балоты, лес і долы
За намі сьледам наўздагон.
І думкі рэчкай ўсхваляванай
Бягуць туды ў далячынь
Туды да вёскі саламянай,
Дзе шыр палёў, дзе неба сінь.
Дзе трэск сярпоў у жыце сьпелым
І песьні звонкія тых кос.
Дзе ўсё жыве шчасьліва, сьмела,
Дзе я радзіўся і узрос.
Вось разам думкі абарвалі
Сяджу я ізноў каля вакна...
Вакзал... а людзі буйнай хваляй
Зьнікаюць у сьценах цягніка.
Гамоняць, сварацца зноў колы,
Бягуць слупы, чубы бяроз,
Кідае сьвету сьпеў вясёлы
Мядзьведзь сталёвы—паравоз.

# У старой хаце

В. Бруевіч.

У Насьці будзе дзіцё. Яна сумавала толькі аб тым, што з ёю няма мужа: два месяцы, як паехаў у Сібір. Хоча прыехаць і сумуе па жонцы, аб гэтым піша часта ў лістох.

Яны сустрэліся ў горадзе. Насьця канчала Пэдтэхнікум. Запісаліся, а ў хуткім часе прышлося паехаць у розныя бакі: ён у Сібір на службу, а яна ў вёску, дзе жыла яе матка, сястра і брат Мікола. Бацька жыў асобна ад сям'і ў сяле за 18 вёрст. Для сям'і ён быў, як адрэзаная луста хлеба. Жывучы ў сям'і, ня любіў гаспадарыць, затым і разышоўся з сям'ёй. Наняўся ў сяло за дзяка і вось ужо два гады, што зарабляў, то прапіваў усьлед. Таму яго не шкадавалі. Невялічкую гаспадарку вялі жанчыны.

Хата Бабулевічаў знаходзілася на ўзгорку. На другім узгорку, насупроць, была савецкая гаспадарка. Паміж дзьвюх гор працякала рэчка, якую вартаваў і стрымліваў нядаўна пабудаваны млын. Затрыманая рэчка нясупынна бурліла каля млына, шумела вадаспадам.

На адлогах гары прыляпіліся сялянскія будынкі. Проста за хатай Бабулевічай рос малады беразьнячок, перарэзаны сьцежкамі, што вялі з вёскі.

Сюды часта прыходзіла Насьця. Думала аб мужу, чакала яго.

Пачалася пара сенажаці. Матка, брат і сястра на цэлыя дні хадзілі на працу. Насьця заставалася адна ў хаце.

У адзін вечар папрацавала з сенам каля возу Насьця, а ўначы яна паклікала маці, якая ўсхапілася ўстрывожаная. Разбудзіла маці Ганну.

— Памажы, калі ласка!.. А-я-яй! Здаецца, перадчасова, — ныючы казала матка.—Дачушка мая! Учора нахадзілася: Я кажу: «супыніся ты, сядзь»! А яна: «мамачка, кажа, а хто-ж будзе рабіць»?

Ганна паехала па акушэрку.

Калі нарадзілася дзіцянё радасьці маткі, якая зрабілася бабкай, ня было канца.

Бабка ўзяла ўнучку на рукі.

Парадзіха ляжала з адбіткам змораньсьці і супакою на твары.

Сястры Ганьне яна казала:

— Мама хоча баб паклікаць, а я не хачу. А з мамай і не пагавары: яна хоча зрабіць усё, як раней рабілі.

Сястра пагутарыла з маці. Куды там! Нават і слухаць не хацела.

І вось прышлі бабы, адрэзалі пуп, плявалі, мылі дзіцё і нарабілі вялікага крыку. Парадзісе было вельмі прыкра. Яна яшчэ адчувала сябе вельмі слабой і бачыла, што бабы не зварачаюць ніякае ўвагі на яе кволасьць.

Маці паставіла на стол самагон. Ён быў мутны, але бабы з вялікім рогатам ўзяліся за яго. Потым п'яная баба паднесла чарку гарэлкі парадзісе.

— Выпі.

— Не, не, не магу!

— Што там, не, не,—выпі,—стала прыставаць ахмялелая баба,—усе п'юць!

— Ну глыні хоць крышачку,—падказвала маці.

Парадзіха ў гэты момант адчувала, што насоўваецца на яе нейкая цёмная сіла, якую не пераканаеш; ад слабасьці яна нічога не магла казаць. Тады баба паднесла ёй гарэлку к вуснам.

Што было моцы Насьця сьціснула зубы.

— Ганна,—крыкнула яна, але сястры ня было.

— Што гэта? Сьвет перавярнуўся ці

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

што? — абураная гаварыла баба дзяручым і сварлівым голасам.

— Усе п'юць, а яна ня хоча. Во, паглядзі на маіх дзяцей, што я бабіла. Ня толькі-ж тваё золата бабіла. Дык у мяне лялькі, а ня дзеці,—і яна паднясла чарку дзіцяці. Але Насьця і тут знайшла ў сябе моцы.

— Не кранайце дзіцяці. Вы яго атруціце. Я не дазваляю,—і яна адштурхнула руку бабы.

Тая з агідай адышла.

— Цьфу! Цьфу! Што гэта за людзі! Сьвет перавярнуўся, я-ж кажу, сьвет перавярнуўся.

— Як табе ня саромна,—накінулася матка на дачку,—ну і ўпартая-ж ты. Пі, калі цябе просяць.

Баба ізноў падбегла з гарэлкай.

— Ну, пі, пі — і спрытна выліла гарэлку ў рот парадзісе.

Тая папырхнулася.

— Ну вось, вось і добра! бывай здарова,—казала разьюшчаная баба. Яшчэ момант, яна наліла ў чарку гарэлкі і ня ўсьпела парадзіха апомніцца, апалелымі вачмі гледзячы на бабу, як тая ўліла дзіцяці каплю гарэлкі з чаркі ў адчынены ружовы роцік.

Парадзіха заенчыла, прыціскаючы да сябе дзіця, якое ледзь не захліпнулася і пена пайшла ў яго з роціка.

Здаволеная баба ізноў села за стол.

— Ну, закусвайце - ж, — гаварыла матка.

Языкі ў баб разышліся. Кожная з іх цяпер успамінала, што было тады, калі яна была цяжарная на Іваначку, ды на Міхалачку.

Насьця адчувала сябе вельмі дрэнна. Нясупынны крык п'яных баб, здавалася, разьбіваў ёй галаву.

Назаўтра прыехаў бацька. Ён даведаўся аб тым, што стаў дзедам і гэта так яго ўзрадавала, што ён адпрасіўся ад службы і па дарозе загадзя напіўся.

Цяпер ён сядзеў каля хворае дачкі і балбатаў бяз конца.

— У мяне ёсьць грошы,—казаў ён,— хочаш, я дам табе двадцаць рублёў? Бяры, папраўляйся.

Ён, аднак-жа, ня даў двадцаць рублёў, а закурыў люльку. Насьця кашляла ад дыму.

Вось ён сапраўды выпяў з кішэні трохрублёвую паперку і перадаў дочцы. Тая падзякавала і схавала пад падушку. Бацька доўга яшчэ казаў, але кляваў носам і відаць было, што ён хутка засьпе.

Так і здарылася. Ланцуг бяссэнсных і нявыразных слоў абарваўся і, хістаючыся, бацька пашыбаваў да шырокае лавы, на якой расьцягнуўся і лёг.

Пад вечар прышлі да бацькі сябры. Гоман стаяў, як на рынку. Дымнае паветра воблакам расьцягвалася па хаце. У кампанію ўцягнулі і матку, якая ад вялікага шчасьця, што стала бабай, таксама, як магла, піла.

Ня піла толькі старэйшая сястра. Яна спачувала Насьці, але нічым не магла памагчы. Нічога не памог і Мікола.

Бацька гаварыў:

— Цяпер я дзяком. Неўзабаве буду дыяканам, і потым і папом. Хутка наш поп памрэ. Яму восемдзесят два гады. У мяне будзе дзьве царквы і чорт яго забяры. Мне будзе досыць... Мая Ганна таксама зараз пойдзе замуж... Цяпер-жа дзеці ў бацькоў ня пытаюць. Сьвет пеяк перавярнуўся! Але яе жаніх, Кізель, быў у мяне ўчора, плакаў, прасіў, каб я яму аддаў Ганну.

— Ілжэце, — сказала Ганна, — хто вам паверыць.

Бацька гэтыя словы ўсяроўна як ня чуў.

— Ну, вып'ем-жа! Налівай, маці, сабе,

— Не, я ня буду.

— Ну, ня хочаш, дык як хочаш.

Прыяцелі выпілі і пачалі гаварыць аб політыцы.

— Цяпер, значыцца, Ангельшчына хоча вайны. Мы ня хочам вайны.

— Хто гэта «мы»?—сказала нездаволеная на бацькоў Ганна.

— Так, значыць, мы ня хочам вайны, —цягнуў бацька, як-бы ня чуўшы слоў Ганны.

Гэтыя словы спынілі стогн Насьці. Ганна падбегла да яе. Насьці было вельмі дрэнна. Тады Ганна падышла да стала.

— Тата! Няўжо вы не разумееце, што ў хаце хворая ваша дачка. Вы тут накурылі...

— Ганна! — асек яе бацька, — гэта што?

Назаўтра ўстаў бацька рана і перш за ўсё закурыў. Галава яго была цяжкая. Трэба было апахмяліцца. Ён успомніў, што Насьці даў тры рублі і ў гэты час пашкадаваў аб гэтым.

Ён падышоў да Насьцінага ложку. Яна ляжала слабая.

«Дзе яна клала грошы? Ага, пад падушку». Ён засунуў руку пад падушку.

— Тата! гэта вы?—слаба прастагнала дачка.

— Я, дачушка, я. Сьпі, сьпі!

Ён узяў тры рублі і вышаў з хаты.

Ганна заўважыла, што Насьцю пачало паліць, як у вагні. Галава была гарачая, вуснамі яна штось шаптала, вочы былі сонныя.

Прышоў фэльчар і сказаў, што справа тут сур'ёзная. Мікола паехаў па доктара. Маці цяпер агледзелася:

— І чаго ты прышоў да нас? Ты толькі няшчасьце нам прынёс—гаварыла яна мужу.

Праз дзень памёрла дзіцё, чаму вельмі ўсе дзівіліся. Яшчэ праз тры дні памёрла Насьця.

На пахаваньні шмат было галошаньняў. Маці галасіла. Ганна горка плакала.

Суседзі супакойвалі маці:

— Відаць на раду было ёй напісана памерці такой маладой,—казалі яны.

— Воля боская! Ніхто, як бог,—ківалі некаторыя галовамі.

Некаторыя-ж казалі — самі вінны, вунь, што дохтар кажа.

А дохтар казаў, што яна памёрла бяз догляду.

Бабы ўсё гаварылі:

— Вечны пакой яе душачцы, вечны пакой! Воля боская.

# МІХАЛ МАКАРЭВІЧ *)

**Кузьма Чорны.**

Можна сказаць з таго часу ў нас усе пачалі заўважаць, што Сёмка Чаркас вельмі часта зьяўляецца на пасёлку. Цяпер заўсёды сам пачаў прыносіць ён на пасёлак боты, каму-б з пасялкоўцаў ён ні шыў, ці ні правіў іх. Кавалiха нават бачыла раз, што Чаркас позна ўночы нешта нёс пад пахаю да Макарэвіча Антося. Нешта гаматнае, укручанае ў газэту. І чамусьці ўсе паверылі, робячы ўсялякія здагадкі, хоць і ведалі, што не магла нічога гэтага бачыць кавалiха, бо ня было яшчэ такога здарэньня, каб яна адна ўночы выйходзіла на двор. Гэта-ж ёй і заўважыў быў Ясь Зыгмуся Купрыяновіча, які якраз быў пры гэтай гаворцы:

— А хто больш гэта бачыў?

— Ніхто больш ня бачыў.

— Вы толькі адны?

— Адна.

— Дык-жа вы, цётка, адны ніколі ўночы на дварэ ня бываеце. Гэта ўсе ведаюць.

*) З роману „Вецер і Пыл“, які рыхтуецца да друку.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

— А от можа й была якраз.

— Ня можа гэтага быць.

— А от і можа.

— Усё роўна вам ніхто не паверыць.

Тут каваліха пачала зварочваць увагу сваіх слухачоў у другі бок:

— Ззамаладу я не баялася ўночы, пакуль раз мяне нешта не напалохала.

— І здорава вы перапалохаліся?

— Ня дай божа нікому добраму. Ворагу свайму не пажадаю, ні то што.

Яна пачала расказваць як некалі нешта было яе перапалохала гэтак, што яна чуць не захварэла з перапалоху.

— А што гэта магло быць?—ня ўнімаўся Купрыяновіч Ясь.

— А хто яго ведае, мусіць, ліхое нешта.

— Дык вы з тых часоў гэта баіцеся вечарам адны на двор выйходзіць?

— Баюся. А што-ж вы думаеце.

— А як-жа вы, цётка, бачылі, што Чаркас нешта позна вечарам нёс да Антося Макарэвіча?

— А от і бачыла. А калі ня я, дык людзі бачылі. Але бачылі. Папытайся ў каго хочаш, калі гэтакі цікавы.

— А што-б гэта ён мог несьці гэтакае?

— Што несьці? А чорт яго ведае, можа які падарунак для Надзі. Тут ніякае гаворкі быць ня можа, бо ўсім вядома, што ён да Надзі цягаецца. Ты, галубка, з гэтым не ўхаваешся, калі завяла распусту, дык не ўхаваешся. Ды яшчэ ў бацькаўскай хаце. Жартачкі! Пабыла некалькі год у горадзе, дык адразу набралася распусты. Жанатаму чалавеку дазваляе хадзіць ды яшчэ вечарам. Гэта ўжо ўдалася гэтакая. Унь Даніельскага Юзэфа гэтак сама на старане ў людзях служыла, а патом, калі яна добрая ды сумленная, дык нічога гэта ёй і не пашкодзіла. Якая была, гэтакая й ёсьць— чыстая, як анёлак.

— А я ведаю, што гэта Чаркас нёс да Макарэвіча.

Каваліха радасна ўстрапянулася:

— Ну, няўжо ведаеш?!

— Гэта ён Макарэвічу боты шыў ды прыпосіў.

З нудным расчараваньнем каваліха пастаралася не паверыць:

— Гэта ты толькі здагадваешся. Каб боты, дык ён мог-бы іх і ўдзень прынесьці. Дзеля гэтага чаго яму канешне вечарам цягнуцца.

— Можаце запытацца ў самога Макарэвіча або ў Чаркаса. Макарэвіч у новых ботах ходзіць. Але найлепш запытайцеся ў Чаркаса. Ідзеце ў мястэчка й запытайцеся Таксама запытайцеся, чаго гэта ён так часта хадзіць пачаў сюды, калі Надзя прыехала.

— Чаго ты з мяне старое кепікі строіш! Што я табе таварышка, ці што! Што ты на мне злосьць спаганяеш! Я ведаю і пра цябе. Ты-ж таксама да Макарэвіча стаў учашчаць, як Надзя прыехала. Ты-ж жаніцца ня думаеш, а так гэта. А тая нябойсь, Чаркаса прыняла. Ты думаеш я ня ведаю, як яна цябе пратурыла к чортавай матары?! Я ведаю. Я ўсё ведаю. Ты ад мяне не ўхаваешся.

Гаворка гэтая адбывалася на хутарох у нядзелю. Былі людзі пры гэтай гаворцы і Ясь засаромеўся. І пачаў старацца перакруціць усё гэта ў жарт:

— Ды пэўна што ад вас нішто нідзе не ўхаваецца. Чуеце і бачыце вы далёка.

— А што-ж ты з мяне кепікі строіш, што-ж ты! Калі я пачала гаварыць, што гэта распуста, дык хіба-ж не! А пра цябе ня праўда ці што! Чаго да Надзі падлазіў! Яна можа была-б дзяўчына як дзяўчына, каб ня гэтакія вісусы, як ты. Што-ж ты з сваімі гэтымі сьмешкамі каля мяне старое пакручваешся, знайшоў таварышку!

— Вы яшчэ, цётка, у самай сіле, вам

яшчэ можна, каб прышлося, нанава шлюб браць. Чаму мне каля вас не пакруціцца.

— Ах ты, шляхцюк ты глянсаваны!

Тут ужо Купрыяновічаў Ясь ня мог цягнуць далей жартаў:

— Чаго вы языком трэплеце? Што вам за інтэрас пра каго, глядзелі-б сябе. За сабою дык вы нічога ня бачыце!

Каваліха нарабіла лямапту, у вялікай сваёй крыўдзе выводзячы на чыстую ваду ўсе Ясявы захады каля Макарэвічавае Надзі, якія яна магла толькі прыдумаць.

Але Ясь ня чуў іх. Ён плюнуў і пашоў. Тагды каваліха радасна заўважыла, што праўда заўсёды вочы рэжа. І пасьля гэтага пачала гаварыць з хутарскімі кабетамі пра фальбону ў сьвяточнай спадніцы Макарэвічавае Надзі.

Зусім іначай успрыняў усю гэтую плынь чутак і здагадак Міхал Макарэвіч. Гаворка адбывалася адлежным адвячоркам у нядзелю на пасёлкаўскай вуліцы. Нас было там чалавек з восем. Міхал Макарэвіч стаяў у сваіх адмысловых ботах, шырока растапырыўшы ногі. Трымаў пальцы ў рукавох вышмарганага і пакарабачанага кажушка і гаварыў:

— Гэта гадоў таму мо' з шэсьць ужо, як я гэты кажушок быў сьпляжыў. Ды, прызнацца, значыць, у дух палажыў адразу. От яго й скруціла. Дык цяпер ў ім ты нікуды ў людзі, значыць, ня выдзеш, а так на плечы ўскінуць.

Нехта з гурту запытаўся:

— А боты?

Боты былі з вострымі наскамі, нізенькімі і шырокімі халявамі. А халява скрозь у фолдах, як кавальскі мех, у гармонію. Усе як і запамяталі, дык Міхал усё насіў іх, мо' ўжо гадоў з трыдцаць. Сёмка Чаркас навата жартаваў быў раз, што Міхал у гэтых самых ботах шлюб браў. Але гэта і сышло як жарт, бо усякі чуў, што Міхал Макарэвіч ажаніўся вельмі маладым. І мусіць памятаў гэты Чаркасаў жарт Міхал, бо пастараўся ня даць гаворцы пра боты:

— Ат, чорт іх.

І пачаў гаварыць зусім пра іншае:

— Сказаць, пашыць цяпер новыя спрэс боты, дык утрайне як раней было. Ці гэта грошы цяпер таньнейшыя, ці гэта тавар дарог стаў...

Пасьля, з поўхвіліны памаўчаўшы:

— Яно-то шыюць, ні глядзяць ні вока ні бока. Каторы чалавек у гадох, сям'ю мае, дык той-то прышвы, ты надтачкі, а маладыя дык франдзяць усе ў новых ботах. Маладыя цяпер строяцца! Модаў гэтых сабе навыдумлялі, то добра кажа, гэтае галіфэ, то... франдзяць! Інакшы век, ого! Даўней гэта, памятаю, хадзілі мы ў гэтыя самыя, значыць, Цяцераўцы на вечарынкі...

— Вы, дзядзька, мусіць некалі на вечарынках вельмі вялікі зух былі?

— Пачакай ты дай ты мне, значыць, гэтае...

— Но але, дай ты сказаць.

— ... Дык прыходзім раз на вечарынку, музыка рэжа!..

— А якая была музыка?

— От была нейкая... Дык музыка рэжа, а тут адзін марцовы кавалер выскачыў наперад, дзеўку за руку, ды калі прайшоў з ёю польку. А сам босы і ў белым зрэб'і ўвесь. Порткі на адным гузіку трымаюцца, ніякіх зашпіляк, нават, значыць, больш і няма. Дык ён, небарак гэты, прарэх свой на бок адразу й ссунуў каб, барані божа, значыць, не разьехаўся пры гэтых скоках... А цяпер што, цяпер на маладых аж міла паглядзець...

— Вы мусіць дзядзька, самі й цяпер маладым сябе пачуваеце.

— Ат... Яно, значыць гэтак. Я-ж кажу, з чалавекам тут гэта... Калі чалавек яшчэ мацуецца трохі, дык яно, значыць,

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15 000

і гэтае... і сілу, значыць, чуе. Гэтак з усякім, не адно са мною. А маладыя вядома яшчэ жывейшыя. Унь Чаркас гэты самы, Сёмка. Якое дзіва, што ён на Надзю Антосяву прыглядзеўся, значыць; гэта ня дзіва. Жывы чалавек! А жывому чалавеку патрэбна навіна заўсёды. Вы думаеце, што гэта чалавек можа, значыць, прывыкнуць да чаго дык і забыцца на ўсё, што больш ёсьць на сьвеце? Чалавек—гэта тхлань. Гэта як калі што падшыбе чалавеку. Унь Чаркас Сёмка...

Тут Міхал цмокнуў языком і страсянуў галавою:

— ... дык ён і сам, значыць, ня ведае добра, чаго яму трэба. От ён мае, значыць, жонку і дзяцей, а да дзяўчыны от прыглядзеўся, прыглядзеўся і цяпер сам з сабою нічога зрабіць ня можа. Ну то што ён тут табе віпават; гэта ні то што іншы кажа—тое, значыць, ды гэтае. Тут я-ж кажу, чалавек, значыць, сам над сабою не гаспадар.

У нас ніколі ня зводзяцца кепікі. Нехта заўважыў:

— Вам, дзядзька, відней, вы самі практык.

— Нашто тут практык. Раз чалавек здароў, дык ён табе, значыць, ніколі ня будзе спаць у шапку, ці як тут, значыць, сказаць.

— Як гэта вы, дзядзька, жывеце халасьцяком?

— А яно, сказаць, усяго, значыць, бывае з жывым чалавекам. От, пахаваў тагды, некалі, жонку, а цяпер гэта падвярод у назе... Ці як тут вам выказаць... От жыву...

Гаворыць ён ціха, зківамі і моргамі, кожную хвіліну зьменьвае выразы твару, варушыць пальцамі, пачухвае імі локці і лоб. Ён доўга можа так гаварыць, а пасьля пайсьці дадому, дадумацца да чаго-небудзь і ўпарта трымацца свайго. Тагды яго ніхто не перайпачыць, пакуль само гэта ў яго ня пройдзе, так, як і прышло.

— Вы да Агаты Ўласавых яшчэ ходзіце?

— Яно тут можна, значыць, сказаць што жывому чалавеку...

І раптам перарывае сам сябе:

— Што ты мяне спавядаеш?

— Не, я не спавядаю.

— Не спавядаеш? Як-жа не!

І пачухаўшы локці:

— Чаркас баявы хлопец. Ого!

# Песьня

**Я. Кохан.**

Пазіраюць мэндлікі
Жоўтымі японцамі—
Так-жа ўсе загараны
тварамі на сонцы мы.
Душы многазыкія,
Як палі прасторныя...
Цвыркуны слух лашчаць нам
Гукамі маторнымі.
А сярпы зубатыя
Хрушчуць косьці жытнія,
Ды ў іх вывіваюцца,
быццам зьмеі мітныя.
У паветры хвалістай
Мяккі шум даўно стаіць
І снапы ланцужнымі
Строямі выростаюць.

Ну, а нам ня хочацца
Слухаць іх манолёгу,
бо ў ім многа роспачы,
Многа невясёлага.
Мо-б сустрэлі песьняю
Сьмерць сваю раптоўную,
Мы сустрэлі песьняю
Баявога поўнаю.
А што песьні жніўныя
Так пяем засмучана,
Дык з таго, што працаю
Цела наша змучана.
А каб жыта жалі мы
Трактарнай жняярнаю,
Мы б запелі песьню
Сонечную яркую.

# Драбіны коцяцца з гары

Уладзімір Хадыка

Драбіны коцяцца з гары.
Ўжо хутка будзем каля вёскі
Мне хочацца дагаварыць
Пра недацьвіўшыя пялёсткі.

На небе сінім мільтуга
Хмурынак шэрых. За балотам
Густы нагадавае гай
Аб тым, чаго ня знойдзеш потым.

Па ржэўніку і па кустох
Віецца срэбра павуценьня...
Знаёмы бачу я парог
Ў глыбі асеньняга адценьня.

Мы выедзем на бок травы
І сьцежкаю пакоцім далей...
Ваўкі над тым тут ходзяць выць,
Каго за волю расстралялі.

Ступае конь наш капытом,
А я—адзін між вас бяздомнік—
Загінуўшым барацьбітом
Вянок журбы кладу на помнік.

І вы і я—мы разам ўсе
Аб гэтым гутарым і марым...
Праходзіць вечар па аўсе
З усьмешкай ветлівай на твары.

Мы рады вечару ў палёх—
Ён нас здаровіць прахалодай
У тумане гэным, што палёг,
І мы туляліся бяз роду.

І мы хадзілі каля сёл,
Як зблуджаныя пілігрымы...
Люблю і я твой новы дол,
Мой край, да безвачы любімы.

Твае і радасьці і сум
Між дзён і досьвіткаў старэчых
Я па сусьветнай пранясу
І родных сноў не пакалечу...

Ня злуй, хурман, браток, ня злуй,
Нічога мы з табой ня згубім:
Праедзем ціха па сялу
Прыемна-зморшчаным і любым.

---

# Маці

М. Лужанін

Роспач дзіка поўніць кубак,
Ад марозу сохнуць думы...
Сон бярозавы аб згубе
Аблятае з лісьцем сумны.

Рушніком уцёрся вецер,
Запаліў чаканьня лямпу.
Маці ходзіць і кабеце
Страшна дзьверы ўзяць на клямку.

Ўсё ёй сьніцца дол зялёны,
Дзе ўздыхае сум арудзій,
Шапкі сінія ў калёнах
І расхлістаныя грудзі. —

Запацелыя кашулі
І жыцьця несьцяты колас...
І туга ў вачох гадуе
Па далёкіх блізкіх кволасьць.

За балоты з верасамі,
Будуць новыя паходы
Людзі ў кнігі запісалі
Тых, што йдуць і ня прыходзяць.

Спадзяюцца і чакаюць
Да хвіліны, да апошняй...
Маці ходзіць, спамінае,
Як абняў яе на ростань.

Як у гуках даўнай песьні—
Будзе стрэча ці растаньне—
Страпятнулася: ля весьніц,
Конь забразгаў капытамі.

Супакой дзіўны і цяжкі...
Але ўсё-ж не галасіла,
Што замест свайго дзіцяці
Абняла чужога сына.

Пагавораць... Словам добрым
Скажа: «едзь свайго дабіцца!»
Будзе доўга любы вобраз
Па начах зімовых сніцца...

Чуць ме крых шалёных згрояў
І крыві салёнай хвалі...
Ціха плакаць ме старая,
Што яго не пахавалі.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукоў. 15 000

# ЛЕЎ ТАЛСТОЙ

М. Р.

Споўнілася сто год з дню нараджэньня вялікага пісьменьніка Льва Талстога. Леў Талстой ня толькі расійскі пісьменьнік, ён пісьменьнік усясьветны. Яго творы перакладзены на надзвычайна шмат моваў і культурныя народы сьвету чытаюць яго. Стогодзьдзе з дню яго нараджэньня сьвяткуе ўвесь сьвет.

Талстой пакінуў нам, як пісьменьнік, вялікую мастацкую спадчыну і шмат мастацкіх «дакумэнтаў», якія моцна білі па капіталістычным ладзе жыцьця. Яго творы адыгрывалі вялікую ролю ў справе змаганьня з царызмам. Але ў той-жа самы час Талстой нічога не зразумеў у тых спосабах змаганьня супроць капіталізму, якімі карысталіся і карыстаюцца рабочыя і рэволюцыйнае сялянства. Усе крытыкі-марксыстыя згаджаюцца, што Талстой будучы панам (графам), не мог ніяк пазбавіцца ад пачаткаў сьветапогляду свае клясы.



ЛЕЎ ТАЛСТОЙ

Талстой быў панам. Але тым панам, які бачыў грахі панства, разумеў усю няпраўду жыцьця, што аснована на панаваньні адных і пакутнай працы другіх. І вось, у вялікіх мастацкіх творах Талстога гаварыць сумленьне, якое ўбачыў сябе ў роскашы, створанай на беднасьці працоўнага люду. У творах яго мы бачым «пакуты гэтага сумленьня».

Талстой не бачыў ролі гораду ў развіцьці культуры чалавечага жыцьця, ён адмаўляў гэтую ролю. Гарадзкая культура для яго была чужою. Ён ня прыняў пад увагу тую ролю, якую павінен быў адыграць горад у лёсе чалавецтва. Пан, які пакаяўся, Талстой быў сынам земляробскае вёскі, а горад лічыў дармаедам, які сядзіць на карку сялянства. І вядома—Талстой, дзякуючы свайму соцыяльнаму пахаджэньню, спатыкаўся ў горадзе з гарадзкім панствам і не заўважаў рабочых. Талстой падышоў блізка

да сялянства гэта было бліжэй да яго, бо ўсё сваё жыцьцё ён непасрэдна бачыў, як абшарнікі жылі ў маёнтках, побач з галоднымі сялянамі ў вёсках.

І якім-жа чынам Талстой думаў палепшыць жыцьцё людзей на зямлі? Ён вучыў, што кожнаму чалавеку трэба палепшыць самога сябе; «нравственно усовершенствоваться», кожнаму быць добрым і дапамагаць усім. І ён адмаўляў рэволюцыйнае змаганьне, гэтакае, як яго разумелі мы. А фактычна гэта была новая рэлігія, якую Талстой ствараў, бязумоўна протэстуючы супроць дзяржаўнай царквы, усімі сіламі змагаючыся з ёю. «Непротивление злу»—вось асноўная думка пропаведзі Талстога-філёзофа. Гэта значыць— не праціўіцца дрэннаму, усе крыўды - прымай з ціхаю пакораю і ўсё дрэннае патроху згіне на сьвеце. Жыцьцё само, практыка рэволюцыі -адвергла гэтую пропаведзь.

Чаму-ж мы так урачыста адзначаем стогодзьдзе з дню нараджэньня Талстога? Мы шануем Талстога, бо ён найвялікшы пісьменьнік, які сваімі творамі прымушаў дрыжэць царскі лад. Выкрываючы няпраўды жыцьця пры капіталізьме, бязьлітасна крытыкуючы буржуазію, ён, такім чынам, зьяўляецца нашым саюзьнікам. Ён памыляўся, вырашаючы пытаньне організацыі радаснага чалавечага жыцьця, але ён бязупынна шукаў праўды, ён імкнуўся да яе.

Мастацкія творы Талстога—вялікая культурная спадчына, якую мы цэнім і прымаем. Калі царкоўнае кіраўніцтва б. царскае Расіі (сьвяцейшы сінод) адлучыла Талстога ад царквы, Ленін пісаў: «Сьвяты сінод адлучыў Л. Талстога ад царквы. Тым лепш. Гэта залічыцца яму ў час народнае расправы з чыноўнікамі ў расах, з жандармамі ў імя хрыста, з цёмнымі катамі, якія падтрымлівалі яўрэйскія пагромы і іншыя ўчынкі чорнасоценнай царскае шайкі». Ленін даў найлепшую ацэнку Талстога, калі гаварыў аб процілегласьцях у творчасьці Талстога, аб тым, што ён ненавідзеў буржуазію і царызм, а з другога боку быў панам, які гаварыў—я гадкі, але я палепшваю сябе, я ня ем мяса, бо забіваць нават жывёлу грэх—і прапаведваў не праціўіцца злу.

Гэта быў найвялікшы мастак. Як прапаведніка мы яго ня прымаем, але яго мастацкія творы, як кажа Ленін, заўсёды будуць цаніцца масамі, заўсёды будуць чытацца. Асабліва тады, калі працоўныя масы, сваім змаганьнем і будаўніцтвам, створаць сабе чалавечыя ўмовы жыцьця.

Леў Талстой—пісьменьнік усясьветны, яго мастацкія вобразы перавысілі нацыянальнае, расійскае. І таму Талстой быў адным з тых «великих писателей земли русской», якія ўзводзілі расійскі народ да агульна-чалавечай культуры, укладаючы ў яе сваё нацыянальнае багацьце.

На творах Талстога вучацца і будуць вучыцца пісьменьнікі, як пісаць, бо гэта найвялікшае літаратурнае мастацтва.

# Злодзей

**Васіль Стафанік**

Пасярод хаты стаяла двое дужых, моцных сялян. Сарочкі на іх падзёртыя, твары пакрываўленыя.

— Ня май, чалавеча, тае думкі, каб я цябе з рук пусьціў...

Саплі абодва, былі змучаныя. Каля пасьцелі стаяла маладая жонка, перапалоханая і заспаная.

— Ня стой, але схадзі зараз па Міхала і па Максіма, ды скажы, каб зараз прышлі, бо я злодзея маю ў руках.

Жонка вышла, а яны засталіся.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000.

— Гэта каб трапіў на слабага—ададраў бы жыцьцё ля ўласнай хаты.

Падышоў да лавы, узяў кварту з вадою і піў з такім смакам, што было чуваць бульканьне вады ў горле. Потым рукавом выцер твар і сказаў:

— Ня трэбаісьці і да цырульніка, і так пусьціў крыві даволі.

І яшчэ не сказаў тых слоў, як злодзей даў яму кулаком паміж вачмі.

— Ты б'еш, дык і я буду, а ну, хто лепей?

Букавым, грубым паленам замахнуўся і злодзей упаў на землю. З ног пацякла кроў.

— Уцякай цяпер, як можаш, я табе нічога не скажу.

Маўчалі доўга. Цьмяны каганец ня мог прадзерціся праз цемень, мухі пачалі гудзець нясьмела.

— Затрымай сабе кроў, чалавеча, бо ўся выцячэ.

— Дай мне вады!

— Дам табе вады, крапіся, бо ня ведаеш, што цябе чакае.

Доўгае маўчаньне.

— Ты, бачу, моцны!

— Я моцны, нябожа, я каня на плечы бяру, ты няўдала трапіў да мяне.

— А натуру маеш мяккую?

— Я мяккі, але злодзея жывога з рук ня пускаю!

— Дык я павінен тут загінуць?

— Або я знаю, ці ты цьвёрды, ці мяккі? Калі ты цьвёрды, дык можаш вытрымаць...

І зноў ціша запанавала ў пізкай хаце.

— Затрымай сабе кроў.

— Нашто, каб горш балела, як будзеш біць?

— Як я ўжо буду біць, то павінна балець.

— А бога ня будзеш баяцца?

— А ты бога баяўся, як у камору лез? Там жа увесь мой здабытак. Калі-б ты мяне абабраў, дык бы на векі вечныя скалечыў. А чаму-ж ты ня лезеш да багатага, але да беднага?

— Прапала, няма чаго гаварыць! Бі, толькі дай мне спакой!

— Пэўна, што буду біць.

На падлозе зачырванела лужа крыві.

— А ты, калі маеш сумленьне, не забівай мяне патрошку, але вазьмі тое палена ды бахні яшчэ так па галаве, як па нагах, дык збудзешся клопату, а мне лягчэй будзе.

— Ты-б хацеў адразу! Чакай, няхай людзі прыдуць.

— Дык ты хочаш добрым суседзям баль зрабіць?

— Ужо ідуць.

---

— Слава Ісусу.

— Навекі слава.

— У вас, Юрка, штось здарылася?

— Так, здарылася. Прышоў госьць, дык трэба яго пачаставаць.

— Вядома, што трэба.

Максім і Міхал заступілі цэлую хату, галовамі дасягалі столі.

— Сядайце, ды выбачайце, што я сапсаваў вам ноч.

— Дык гэта вось ён на зямлі?

— Ён.

— Хлопец, як зьвер, мелі вы досыць працы, пэўна?

— Дужы, праўда, што дужы, але на дужэйшага трапіў! Пакуль што якое будзе, сядайце за стол і госьця прасеце.

Юрка вышаў і за хвіліну прынёс бутэльку гарэлкі, сала і хлеб.

— Дык чаму не бярэце і яго за стол?

— Кажа, што ня можа ўстаць.

— Я памагу.

І Юрка ўзяў злодзея пад пахі і пасадзіў за стол.

— Вы ўжо ў хаце мелі з ім спрэчку, Юрка?

— Хацеў мяне прыбіць. Як угрэў мяне

кулаком між вачэй, то кажу вам, што мала-мала я ня ўпаў. Але я намацаў паленца каля сабе ды і яго морснуў па ножках і ён сеў макам.

— Вы ня дзівіцеся, бо кожны хоча бараціцца.

— Дык я нічога не кажу.

Злодзей сядзеў за сталом бледны, абыякавы да ўсяго. Каля яго Максім, а далей Міхал. Ля печы стаяла жонка ў кажусе.

— Юрка, што ты хочаш з ім рабіць? Людзі, уразумеце яго, ён хоча чалавека забіць!

— Жонка, я бачу, што ты баішся, дык ты ідзі сабе да маткі, пераначуй сабе, а заўтра прыдзеш.

— Я не пайду з хаты.

— Дык будзеш з намі гарэлку піць, але ня плач, бо біць ня буду. Лезь на печ ды і сьпі, або глядзі, або як хочаш.

Яна ані кранулася ад печы.

— Баба бабаю, Юрка, яна баіцца бойкі, не глядзіце.

— Што мы будзем на яе глядзець. Дай, божа, здароўя, чалавеча, я да цябе п'ю! Ня ведаю, хто за каго будзе грэх мецць, ці ты за мяне, ці я за цябе? Але грэх мусіць быць, гэтак зайшло, што без граху не абойдзецца. Эй, не.

— Не хачу.

— Павінен піць, калі я прашу! Гарэлка табе трохі дасьць сілы, бо ты гэта аслаб.

— Я не хачу з вамі напівацца.

Усе тры прыяцелі павярнуліся да злодзея. Заўзятыя, чорныя вочы прарочылі яму згубу.

— Давай, буду піць, але пяць порцый зараз.

— Пі, а як ня хопіць, то яшчэ дастанем.

Наліваў адну за аднэй і выпіў шэсьць. Потым пілі Міхал і Максім. Закусвалі і зноў пілі.

Міхал:

— Скажы-ж нам, чалавеча, адкуль ты забрыў у наша сяло, ці ты блізкі, ці далёкі?

— Я з сьвету.

— А як ты, ці нашага мужыцкага стану, ці панскага? Бо інакай да цябе прыстасуемся. Мужыка, дык гэтак б'юць: разы са тры ламакаю, па галаве, ды колькі разоў па твары, каб упаў, бо мужык цьвёрды, за яго трэба цьвёрда брацца, а калі ён пад нагамі, дык работа лёгкая. А з панам справа робіцца ізноў па іншай модзе: ламакі не паказвай, бо памрэ адразу, але пугаўём ад бізуна пастраш; а як ён задрыжыць усім целам, дай у морду два разы, але ня моцна... пан ужо пад нагамі. Пахадзі трохі па ім, хвіліну-дзьве, і гатова, рэбры пацерты на хвораст, бо беленькая костка, як папера.

Сябры цяжка, тупа засьмяяліся, а Міхал чакаў, што яму злодзей скажа.

— Ну, да якой веры далучаешся?

— Ды да такой, што калі п'яце гарэлку, то вы мяне ніякім спосабам жывога з рук ня пусьціце.

— Праўду кажаш, праўду, за гэта цябе люблю!

— А пакуль заб'яце, то дайце яшчэ гарэлкі, нап'юся, каб ня знаў, калі і як.

— Пі, на такую справу пі, я не забараняю, але што ты на мяне трапіў, бадай цябе бог скараў. Чалавеча, я цьвёрды, я каменны, цябе з маіх рук ніхто ня вырве!

Злодзей выпіў яшчэ пяць чарак.

— Біце, колькі хочаце, я ўжо злагоджаны.

— Чакай, брацiку! Добра, што ты ўжо здаволены, але мы яшчэ не здаволены, ты па пяць, а мы па аднэй. Як цябе дагонім, пачнем гаварыць.

Міхал глядзеў дужа весела, Максім якуюсь думку меў, але баяўся яе выявіць, а Юрка быў неспакойны.

— Бачу, людзі, што будзе бяда, засту-

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000.

піўся-б я, але штось мяне да яго цягне, ланцугамі цягне... будзем піць... закусвайма...

— Дайце я вас пацалую ў руку, — сказаў злодзей да Максіма.

— Ой, чалавеча, ты дужа баішся, ой, гэта ня добра!

— Не баюся я вас, і сто раз пабажуся, што не баюся!

— А што-ж?

— Мне лёгка стала на душы цяпер, дык я хачу таго дзядзьку ў руку пацалаваць, ён сівы чалавек, мог бы быць маім бацькам...

— Чалавеча, пазбаў мяне, бо я мяккі на сумленьне, я не хачу, будзь сабе без мяне...

— Але дайце руку, бо грэх будзеце мець, я хачу вас пацалаваць як роднага бацьку.

— Я цалкам мяккі, чалавеча, не цалуй мяне.

Міхал і Юрка аж рты паразьзяўлялі і гарэлку пакінулі піць. Паўскудлачвалі чупрыны і сваім вушам ня верылі.

— Туман пускае, чаго ён хоча?

Максім вытарашчыў вочы, як баран і не разумеў, што робіцца.

— Зьмеркаваў, што я мяккі, зараз гадаў...

Гаварыў, каб апраўдацца перад Міхалам і Юркам.

— Дайце, дайце руку, але ад шчырага сэрца, бо як вас пацалую, мне будзе лёгка: я бачу, што ўжо мне не хадзіць па сьвеце, дык хацеў бы я разьвітацца з вамі.

— Ты не цалуй, бо я зьмякну, я табе так дарую.

—Але я вас дужа прашу, бо я дужа цяжка буду паміраць, бо я яшчэ нікога ў руку не цалаваў, каб ад шчырага сэрца... я п'яны, не, але я так хачу...

— Ціха, чалавеча, не падходзь, бо як, то і ня дрыгн...

— Калі вы думаеце, што я дурусь, а я праўду кажу. Я бачыце, як напіўся гарэлкі, дык мне так зрабілася ў галаве, што я павінен загінуць і таго дзядзьку ў руку пацалаваць, каб мне бог грахі зьменшыў. Дык дайце руку, дзядзька! Скажэце, хай дасьць.

— Што гэта чалавек ад мяне хоча, калі я ня ведаю, што рабіць, бо я жаласьлівы такі, што не магу таго сьцярпець...

Максім ня ведаў, што з сабою рабіць у такім клопаце. Ён сароміўся, як дзяўчына.

— У мяккага ўсё так, усё ён у людзей на пасьмешках, такая натура паскудная. Вы ведаеце, як я трохі гарэлкі нап'юся, дык і плачу. Трэба было мяне сюды ня клікаць, бо я, ведаеце, такі, як прадзіва.

Злодзей хацеў узяць Максімаву руку, каб пацалаваць.

— Гэта злодзей хоча штукаю нас абыйсьці. Максім, ідзі ад яго.

— Давайце гарэлкі, Юрка, будзем піць,—сказаў Міхал.

— Ня йдзі, Максім, ня йдзі, дзядзечка ад мяне, бо я зараз памру. Я не баюся, не баюся, але такі мне неспакой...

Ён пачаў дрыжаць усім целам, губы трэсьліся. Міхал і Юрка пілі гарэлку і не глядзелі на яго.

— Чаго ты баішся, няма чаго, я табе дам руку пацалаваць, ужо дам, на, цалуй, як ты сабе хочаш...

Злодзей прыліп да рукі, а Максім лыпаў вачыма так, як бы хто яго раз-па-раз біў па твары.

— Мяккім ніколі ня сьлед быць, бо мяккі чалавек ня здольны ні да чога...

Міхал расставіў усе пальцы на руках і паказваў Юрку.

— Чалавеча! Такі дужы, такі спрытны да бойкі, што раз спрытны, дзе схопяць, так з мясам рвуць!

А Юрка нічога не казаў, толькі плё-

ваў у далоні і наліваў гарэлкі.

— Досыць ужо, нябожа, досыць, пусьці, я пайду! Бо тут няма бога я на гэта не магу глядзець! Выцягні рукі з-за пазухі, не абнімай мяне, пусьці, бо мне гэтак сорамна, што ня ведаю, дзе дзецца!

— Я яшчэ хачу образ пацалаваць, я хачу ўсіх, усіх, дзе хто ёсьць на сьвеце, —крычаў злодзей.

Жонка саскочыла з печы і ўцякла, Міхал вышаў з-за стала і п'яны, як ноч, Юрка стаяў і думае сабе, што ён меўся рабіць.

— Максім, вы з маёй хаты ўцякаеце, каб я вас тут ня бачыў, бо заб'ю!

— Я пайду, Юрка, я вам не кажу нічога, але вы ня гневайцеся, бо вы знаеце, што я мяккі чалавек. Мне так здаецца, што грэх будзеце мець, я сабе іду...

— Ідзіце, ідзіце, бо вы не чалавек, але баба.

Максім падняўся і вышаў з-за стала.

— Будзьце здаровы! ды ня злуйце, бо я, як і казаў, не да чаго.

Злодзей адзін застаўся за сталом, бляды трохі, але вясёлы.

— А ты выйдзеш з-за стала, ці трэба цябе выносіць?

— Я ня выйду, я бачу, што ня выйду, бо я маю тут пад абразамі сядзець.

— Ой, выйдзеш, выйдзеш, мы будзем прасіць.

І кінуліся на яго, як галодныя ваўкі.

*З украінскага пераклаў*

**Ул. Хадыка.**

# Справа ўсяе грамадзкасьці

**Лукаш Сазон**

Пачынаючы з 1927-28 навучальнага году паводле пастановы Менскага акруговага выканаўчага камітэту ў нашым Заслаўскім раёне, на Меншчыне, уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне дзяцей, якія радзіліся ў 1918 г. У гэтым навучальным годзе нашы школы павінны ахапіць дзяцей, якія ўжо наведвалі школу ў мінулым годзе, а гэтак сама і тых дзяцей, якія радзіліся ў 1919 г. Калі ў мінулым навучальным годзе ў некаторых мясцох справа з абавязковым навучаньнем стаяла вельмі дрэнна, то ў гэтым навучальным годзе ўсе перашкоды трэба як найхутчэй зьнішчыць. Якія-ж існавалі перашкоды ў мінулым годзе? Паперша, трэба адзначыць, што ня была зацікаўлена ў гэтай справе ўся савецкая грамадзкасьць. Органы народнай асьветы высылалі інструкцыі, пастановы і інш. і калі гэтыя паперкі даходзілі да райвыканкому, а потым да сельсаветаў, то ўжо быў студзень м-ц і складаць камісіі для праводзеньня ў жыцьцё справы ўсеагульнага навучаньня было непатрэбным. Падругое, ня было належных сродкаў, а калі і былі, то вусім нязначныя, для дапамогі бацьком вучняў беднякоў. Далей, само насельніцтва вёскі, а асабліва хутарская частка, не адчуваючы над сабой ніякай адказнасьці, мала цікавіліся гэтай справай і не пасылала дзяцей у школы. Акрамя гэтага несваячасовая выдача школай апалу адпіхала ад яе значную частку дзяцей. Усё гэтае складала вельмі дрэнныя ўмовы для справы абавязковага навучаньня.

Настаўнікі праводзілі бацькоўскія сходы, на якіх зазначалася карысьць навучаньня, складаліся і адсылаліся ў сельсавет сьпісы бацькоў, якія не пасылалі дзяцей ў школы, але, як кажуць, адзін у полі не ваяка і ў выніках аказалася, што значная частка дзяцей у школы не хадзіла.

У гэтым годзе, калі мы павінны ахапіць школамі ўжо за два гады дзяцей-

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000.

справа становіцца яшчэ цяжэй і калі вышэйпаказаныя перашкоды ня будуць зьвішчаны, то справа можа праваліцца на 50 проц. Настаўніцтву неабходна як найхутчэй зрабіць вучот дзяцей, якія належаюць абавязковаму навучаньню, абгаварыць сьпіс дзяцей на пасяджэньнях школьных саветаў сумесна з прадстаўнікамі ад мясцовых організацый, дзеля аказаньня матар'яльнай дапамогі бацьком-бедняком. Правесьці бацькоўскія сходы, на якіх зацікавіць іх пытаньнямі асьветы. Сельсаветам-жа трэба зварухнуць культсэкцыі, якія нічога ня робяць, трэба іх паднавіць і даручыць ім справу па ўсеагульным навучаньні. Райвыканкому зьвярнуць увагу на своечасовую выдачу матар'яльнай дапамогі, а гэтак сама і вучнёўскіх прыналежнасьцяй, для вучняў-бедняко. Само-ж сялянства павінна выявіць асаблівую чуласьць да гэтай справы, памятуючы, што ўсе мерапрыемствы савецкай улады, а ў гэтым выпадку абавязковае навучаньне дзяцей праводзяцца дзеля палепшаньня жыцьця рабочых і сялян, падняцьця іх культурнага ўзроўню, да організацыі новага лепшага жыцьця.

Заслаўскі раён, на Меншчыне.

# Бібліяграфія

## Тры кніжкі

**Ал. Язвіч**

Перад намі тры кніжкі: «Няўдалы яздак» (для дзяцей) і дзьве «Зьмітракова студня» і «Лятуны» з сэрыі «Бібліотэка школьніка» для больш старэйшага ўзросту.

У зборніку «Няўдалы яздак» зьмешчаны тры апавяданьні: «Няўдалы Яздак», «Гадзіна» і «Барлівая карова».

У першым апавядаецца, як дзеці хацелі навучыць собаку вазіць санкі і як з гэтага нічога ня вышла.

Пашлі трое хлопцаў у лес па ягады. Аднаго з іх кусае гадзіна. Лявон ведае (у кніжках чытаў), што ад гэтага можа быць сьмерць. Перавязвае рану Кастусю, выціскае адтуль атруту. У больніцы Кастусь папраўляецца—не далі заражэньня крыві—апавядаецца ў другім.

У трэцім, як барлівая карова абараніла сваё дзіцё і пастушку ад ваўка.

Усе тры апавяданьні напісаны вельмі жыва. Чытаюцца лёгка, з захапленьнем. Ёсьць трохі прыгодніцтва, што яшчэ больш зацікаўлівае.

Малюнкі, добрая папера і шрыфт вабяць чытача.

Адно трэба пажадаць БДВ у далейшым выдаваць такія кніжкі меншым памерам, па прыкладзе «Бібліотэкі школьніка», гэта значна лепей, а не форматам часопісі.

Таксама лепей прадумліваць аўтарам свае творы.

Бо вось, напрыклад, у апавяданьні «Няўдалы яздак» знаходзім:

«...аднойчы ў нядзелю ў марозны, сьветлы дзень, пасьля полудню,—што такое?.. Дзеці, што езьдзілі на санках з горкі, сьціхлі, як акамянелыя; шырока расплюшчылі вочы мужчыны і бабы. якія сядзелі на лаўках каля хат: што за цуд?!

Дазвольце спытаць, паважаныя аўтары, ў якой гэта краіне было? У нас у Беларусі звычайна летам сядзяць на лаўках каля хат, грэюцца значыць, а зімою гэтага няма.

Таксама ў апавяд. «Барлівая карова» выводзіцца, як мораль, што гаспадар быў рад таму, што не адпілаваў рогі ў каровы. Калі цяпер быў рад, то другі раз, каб не пашкадаваў.

Найбольш удачным апавяд. зьяўляецца «Гадзіна» з боку вучэньня дзяцей, як абыходзіцца ў такіх выпадках з пакусаным.

У «Зьмітраковай студні» апавядаецца, як 14-цігадовы Зьмітрок выводзіць вёску на лепшы шлях жыцьця.

За 50 вёрст ад чыгункі стаіць вёска Жмыхаўка. На ўсю вёску няма ніводнае студні. Ваду п'юць з балота. Хварэюць і ўміраюць людзі кожнае лета ад такое вады. Няма чым тушыць пажары.

Як бачыце, само па сабе апавяданьне досыць цікавае. Глянем цяпер на яго распрацоўку.

Вось хоць бы такое возьмем месца ў апавяданьні:

«Прыехаў улетку прамоўца з гораду. Гаварылі аб чатырохпольлі, аб асушцы

балот. На сходзе Зьмітрок самы старэйшы быў з мужыкоў, а то ўсё дзеці ды бабы, а мужыкі сенажаць дзялілі (стар. 6).

Калі гэта так, то надарма прамоўца турбаваўся гаварыць, выбіваўся з сіл, тлумачачы дзецям аб пераходзе на шматпольле, аб асушцы балот.

Дрэнна зрабіў прамоўца, што не пачакаў мужыкоў з сенажаці.

Лягчэй бы з імі дагаварыўся і напэўна Зьмітраку яны дапамаглі-б. Напэўна Сыльвэстр не ганяў-бы Зьмітрака, як той хапеў на яго палосцы студню выкапаць. Ня лепшы кожны будзе, як на яго палосцы пачнуць каму ўздумаецца ямы капаць.

Не хварэў бы Зьмітрок, каб прамоўца аб такіх мерапрыемствах, як пераход на чатырохпольле ды асушка балот, пагаварыў на агульным сходзе.

Сапраўдная выдумка, не адпавядвае сапраўднасьці. Тым больш, што ў канцы аўтар сам зазначае радасьць мужчын убачыўшых ваду ў яме, якую выкапаў Зьмітрок. Самі ўхвалілі на сходзе зруб зрабіць.

А каб яны былі на сходзе, ды пачулі ад разумнага чалавека, што з балота можна добрую сенажаць зрабіць, то напэўна ўзяліся-б за асушку яго.

Найбольш шырэйшым па сваім разьмеры і сюжэце зьяўляецца апавяданьне «Лятуны».

За сто вёрст ад Менску ёсьць вёска, у якой жывуць хлопцы Кірылка, Ілюша, Аркадзь і іншыя.

Да чаго толькі не дадумаюцца дзеці, да якіх гульняў ня дойдуць.

Давялося Кірылку чуць апавяданьне пра машыны, што ў паветры лётаюць, І сам захацеў ён зрабіць такую.

Зрабіў Кірылка са сваім сябруком зьмея з паперы ды туды сьвечку ўставілі, а ў выніку чуць хаты не спалілі, як загарэлася папера.

Добра, што хата дахам крыта была.

Не паздаровілася Кірылку за такія штукі, як папаўся ў дзедавы лапы. Хутка прыяжджае з гораду бацька са сваім сынам Рыгорам і яшчэ адным лётнікам на аэроплянe ў вёску Кірылкі.

Сапсаваўся аэроплян і лётнікі некалькі дзён праводзяць у вёсцы.

Кірылка знаёміцца з Рыгоркам, разам гуляюць (шэфства, адным словам).

Калі аэроплян быў адрамантаваны Рыгорка хавае Кірылку ў кабінку і прывозіць яго ў горад з сабою.

Кірылка астаецца ў горадзе на заводзе, спадзяючыся восеньню паступіць у фабзавуч.

Да яго прыяжджае праз паўгода маці ў госьці і радуецца кабеціна, што сын яе выбіўся ў людзі.

Апавяданьне досыць цікавае. Чытаецца з захапленьнем, ставячы перад чытачом пытаньне: чым-жа гэта скончыцца?

Выдадзены кніжкі досыць добра. Малюнкі вабяць чытача і дапамагаюць яму больш уяўляць тое. што чытаецца. Памер самы раз для школьных бібліотэк.

Адно трэба пажадаць, каб гэтыя кніжкі тым ці іншым спосабам папалі ў школьныя бібліотэкі, каб яны былі танейшыя. І яшчэ каб яны былі напісаны жывою мовою, а не дубовою, канцылярскаю. Але гэтае пытаньне асобнае, вельмі балючае і вострае цяпер. Аб гэтым трэба гаварыць асобна.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**К. ШКІРУ.** Цікавы сюжэт Вашага апавяданьня „з мінулага" зусім не распрацаваны. Бадай што (відаць з апавяданьня) Вам справіцца з гэтаю працаю пакуль што цяжка. Друкавацца ня будзе.

**Н. ЖАЛЕЙЦЫ.** Вам можна сказаць тое самае, што і папярэдняму тавtechнышу. «Сьлеў роднаму краю» з значнымі рэдакцыйнымі папраўкамі можна надрукаваць.

**М. ПРОЦЬКУ.** Допіс „У туманную раніцу"—перададзены у часопіс „Паляўнічы".

**П. СІЛЬВАНОВІЧУ** (апав. „Рыгор Балдаш") **М. ФІЛАНОВІЧУ** (апав. „Казырок" „Аленчына перамога") **СУДНІКУ** (апав. „Няшчасьце")—друкавацца ня будуць.

*Адказны рэдактар*
*ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ*

Друкарня газ. «Зьвязда», Менск, Савецкая, 63. Галоўліт № 304

алоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукоў. 15.000.